 


# Ніва

ШТОТЫДНЁВІК

ГОД I № 33 БЕЛАСТОК, 14 КАСТРЫЧНІКА Цана 60 гр.




*Палявая дарога.* *Фото — Ст. Панькоўскі.*

## ПІЛІП ПЕСТРАК

## ДЗІВАСІЛ

Ёсць расліна дзіўная ў народзе,
Яна ходзіць казкаю па ўсіх,
Мо' калісьці пры цяжкой нагодзе
Так празвалі людзі — «Дзівасіл».

Мы сядзім ля плота. Бабка з намі —
Усё вядзе свой даўні, дзіўны сказ,
Як жылося цяжка пад панамі,
Як пабіты сын быў — Апанас,

Як паны адбілі яму грудзі
За рыбацкую, за долю ўсіх...
«Я ўжо думала, што жыць не будзе,
Аж знайшлі ратунак... Дзівасіл...

Ён падняў на ногі майго сына»...
Бабка кажа рознае пасля,
Як раслінку гэтую так дзіўна
Напаіла сокамі зямля.

А ён вось за плотам жоўтым квеццем
Усё ківае нам над галавой
І не ведае, што ён на свеце
Так здружыўся з людскаю бядой.

«Калі вам на сэрцы цяжка стане,
Адбярэ вам немач рэшту сіл,
Не сумуйце, дзеткі»... — Бабка ўстала —
«Дам вам на дарогу Дзівасіл».

# АБ БЕЛАРУСАХ У ГІСТОРЫІ

«Я моцна сумняваюся ці сапраўды калі існаваў і існуе такі народ — беларусы, як народ самастойны. А калі існаваў, дык чаму ён ніколі не паказаў гэтай сваёй самастойнасці, чаму ў гісторыі не чуваць аб ім». Такое вось разважанне мне нядаўна давялося чуць.

Прызнаюся, што мне, як беларусцы чуць гэта было вельмі прыкра і цяжка. І што горш — я ведаю, што такая думка не адасоблена, яе раздзяляюць шмат іншых людзей — і то людзей часта адукаваных.

Я старалася растлумачыць сабе прычыны гэтага беспадстаўнага, несправядлівага погляду, бо ў сапраўднасці-ж справа маецца зусім інакш.

Аб беларускім народзе гісторыя ведае, аб ім было чуваць, ён жыў, думаў і змагаўся. Справа толькі ў тым, што прыгняталынікі беларускага народа заўсёды імкнуліся заглушыць, скрэсліць з людской памяці ўсё, што датычыла беларусаў. Ці гэта ім удавалася, рэч іншая.

У адносінах да беларусаў прыгняталынікі ўжывалі асабліва цяжкія і прыкрыя метады.

*«Беларусь — гэта раён Польшчы, — трубілі паўсюдна магнаты і каралі, — а беларуская мова — гэта толькі дыялект польскай мовы».*

*«Рускі народ — гэта вялікарусы, беларусы і маларусы, — гаварыла царская гісторыя, — і беларуская мова — дыялект рускай мовы».*

Значыць не існаваў беларускі народ: — гэта была толькі састаўная частка раз польскага, раз рускага народа.

У разважанні магнацкай і царскай гісторыі не існавала і беларуская культура — нашы душахвалюючыя песні, жыццерадасныя танцы, трапныя прымаўкі, вострыя выслоўі, поўныя духовага багацця жарты, казкі, у якіх выяўлялася імкненне народа.

І вось на злосць усялякім варожым паклёпам, беларускі народ жыў, тварыў і змагаўся.

У XVI стагоддзі беларускі дзеяч Налівайка, праследваны за сваю дзейнасць сярод беларускага народа, уцёк на Запарожжа. Там сабраў атрад узброеных казакаў і з імі паўторна ўступіў на Беларускую зямлю. Тут да яго далучыліся беларускія сяляне — паўстанцы, меўшыя больш дзесяці гармат.

Паўстанцы занялі Слуцк, Магілёў. Паўстанне ў хуткім часе ахапіла больш палавіны тэрыторыі Беларусі.

У 1606 годзе на Беларусі ізноў узнікла вялікае паўстанне беларускіх рамеснікаў у горадзе Магілёве. Рух узначальваў Стахор Мітковіч і яго памочнікі, Мікіта «шабельнік», Пётр «каваль», Герасім «калачнік», Фёдар Ісакавіч «кравец». У выніку паўстання была звергнута польская ўлада, і ў Магілёве была выбрана гарадская рада, якая складалася з рамеснікаў.

Год 1648 у гісторыі Беларусі запісаўся ўсенароднымі магутнымі выступленнямі. Народнае паўстанне, ахапіўшае ўсю Беларусь, было накіравана супроць прыгонніцкага ладу і нацыянальна-рэлігійнага прыгнёту магнатаў і шляхты, а таксама эксплуататарскай вярхушкі гарадскога насельніцтва — арандатараў, адкупшчыкаў, ліхвяроў.

Паўстаўшыя знішчалі магнатаў, шляхту, разбуралі панскія маёнткі.

Вось як паведамляў трубачэўскага ваяводу старадубскі староста:

*«халопы нашы кабальныя ўсе падданыя маетнасцей нашых узбунтаваліся супроць нас, паноў сваіх і не мала шкод пачынілі, паноў сваіх пазабівалі і ўсе скарбы і маетнасці немалыя пазабіралі».*

Сярод магнатаў панавала паніка. Яны аказваліся бяссільнымі перад гневам народа. Уцякалі ў глыб Польшчы.

Гады 1648—1653 былі гадамі вялікага ўздыму паўстанчага руху на Беларусі. Такія гістарычныя падзеі гэтага перыяду, як паўстанне ў Пінску, гераічная абарона Мозыра і Бабруйска — бітва пад Лоевам, у якіх народ паказаў свету сваё свабодалюбіе, яскрава сведчаць аб гераізме, устойлівасці беларускага народа і яго любві да Радзімы.

У 1863 годзе, калі Беларусь пасля падзелу Польшчы была далучана да Расіі, яе ахапіла магутная хваля сялянскіх паўстанняў пад кіраўніцтвам беларускага дзеяча — рэвалюцыйнага дэмакрата, Кастуся Каліноўскага.

Паўстанне Кастуся Каліноўскага праходзіла пад лозунгам звяржэння царскага самаўладства і барацьбы з памешчыкамі і царскімі сатрапамі.

У Вільні тады ўтварыўся рэвалюцыйны штаб сялянскага паўстання.

Да сялян далучыліся рабочыя і рамеснікі. У Мінскай губерні было створана 20 паўстанчых атрадаў. Паўстанцы жорстка распраўляліся з прыгняталынікамі народа.

Далейшы ход гістарычных падзей у Расіі неразлучна звязаны з актыўнай паставай беларускага народа, які ў супольнай барацьбе з рускім народам змагаўся за сваё вызваленне.

Так было ў час першай рускай рэвалюцыі, у час рэакцыі пасля першай рэвалюцыі. Найлепшыя імкненні беларускага народа 1905—1907 г. г. увасоблены ў постацях такіх дзеячаў як: Цёткі, якая разгарнула тады ўсебаковую рэвалюцыйную дзейнасць Янкі Купалы, Якуба Коласа.

У час першай сусветнай вайны, Кастрычніцкай Рэвалюцыі, другой вайны, беларускі народ узнімаўся на барацьбу за інтарэсы чалавека, за сваю свабоду, разняволенне.

Беларускія партызаны ў час другой сусветнай вайны ў барацьбе з іншаземнымі захопнікамі, уславілі сябе і свой народ. Яны верна баранілі свайго народа, сваёй зямлі. Аб іх чула не толькі ўся Беларусь, але ўвесь Савецкі Саюз, уся Еўропа, увесь свет.

Шырока вядомы слаўныя сыны беларускага народа перыяду апошняй вайны — капітан Гастэла — Герой Савецкага Саюза, які на гарэўшым самалёце біў нямецкія танкі, генерал Леў Даватар — Герой Савецкага Саюза, загінуўшы ў час разгрому немцаў пад Масквой, Грыцавец — двойчы герой Савецкага Саюза, генерал Ераменка — выдатна кіраваўшы Сталінградскай абаронай, Заслонаў, Бумажкоў, Паўлоўскі, Казлоў і іншыя героі - беларусы, якія сваёй слаўнай дзейнасцю даказалі ўсяму свету, што варты беларускі народ.

На працягу гісторыі беларускі народ неаднаразова паказаў сваю сілу, самастойнасць і любоў да праўды і справядлівасці, а лютую нянавісць да паганых ворагаў.

Аб ім было чуваць, аб гераізме яго ляцелі весткі па ўсёй Расіі і Еўропе. І хто хоць у агульных нарысах ведае гісторыю беларускага народа, ніколі не скажа, што аб беларускім народзе не было чуваць.

Беларускі народ жыў і будзе жыць, бо гэта народ, які мае сваю гісторыю, сваю багатую культурную спадчыну.

Чулі аб ім, калі змагаўся за лепшую долю і чуюць зараз, калі сваёй працай будуе светлыя дні будучыні.

ВЕРА ЛЕУЧУК

 

# Ці гэтак узнімаецца аўтарытэт народнай улады

Засушлівымі былі першыя дні чэрвеня гэтага года. Дзень у дзень сонца бязлітасна слала свае гарачыя праменні на зямлю. І вось 6.VI. г. г. у Крынках, Сакольскі павет, раптоўна ўзнік вялікі пажар. За кароткі час згарэла некалькі жыллёвых дамоў і гаспадарчых будынкаў. Асабліва моцна пацярпелі ў гэтым няшчасным выпадку гаспадары: Уладзімір Мянько, які мае 4 га. зямлі і малазямельная Уршуля Кулакоўская.

Тры дні Уладзімір Мянько разам з хворай жонкай, дзяцьмі і ўратаванай маёмасцю жыў на руінах. У той час неаднаразова звяртаўся ён за дапамогай да старшыні Грамадскай рады, Шуткевіча. Гр. Шуткевіч прапанаваў яму памяшканне на паддашы пры вул. Надрэчнай 9. Мянько не згаджаўся на гэта тлумачачы што ён, як гаспадар, не можа жыць на другім паверсе ды насіць па стромкіх сходах па некалькі разоў у дзень гаршчкі і іншыя сельскагаспадарчыя прылады, а па другое не было дзе там змясціць жывёліну.

На трэці ці на чацверты дзень пасля пажару пагарэўшыя: Уладзімір Мянько і Нарберт Дудзінскі занялі парожні дом пры вул. 22 ліпеня, на якім згарэў толькі дах. Яны хацелі там абсталявацца са сваімі сем'ямі. Але аказалася, што гэты будынак быў ужо прызначаны для сям'і працаўніка мясцовай аптэкі, які ў хуткім часе меў прыбыць у Крынкі. Ну што-ж, гэта цалкам правільна пастанова — працаўнік аптэкі, у пэўным сэнсе чалавек навукі, павінен мець добрую кватэру, але...

Мянько і Дудзінскі пакуль што едуць у Саколку ў Павятовую раду з просьбай каб за кошт дзяржавы зрабілі дах на гэтай хаце, бо ў дажджлівыя дні з столі лілося як з цэбра. Просьба была выканана — дах зроблена. Для Мянька як гаспадара абяцалі распачаць стаpанні аб лепшае, больш адпаведнае памяшканне.

Настала лета. «Летні дзень год корміць» — гаворыць народная прымаўка. Мянько ад досвітку да змроку працаваў у полі. Мабыць у разгары і мітусні жніва мімаволі, і забываўся аб гэтых непаладках.

Дзесьці так у першай палавіне жніўня тражываючы разам з ім Нарберт Дудзінскі перасяліўся з сям'ёю ў «сваю» кватэру, якую прызнала яму ГРН.

28 жніўня Уладзіміра Мянько выклікаюць у Грамадскую раду. Там ужо чакалі яго: старшыня ГРН гр. Шуткевіч і працаўнік Аддзела комунальнай гаспадаркі ПРН у Саколцы гр. Крохмаль. Паразмаўлялі. Уладзімір Мянько ў іх прысутнасці склаў пісьмовую заяву, што калі яму бясплатна прызнаюць матэрыял на пабудову хлява, то ён згаджаецца жыць на другім паверсе ў будынку пры вуліцы Надрэчнай 9. Згадзіліся. Удакладнілі тэрмін, у якім ён меў перасяліцца туды — да 14 гадз. наступнага дня.

На другі дзень было якраз праваслаўнае свята — Зельна. Мянько з'яўляецца веруючым чалавекам але калі зранку на другі дзень убачыў на небасхіле хмары, кінуў святкаваць і запрогшы каня паехаў з жонкай звозіць збожжа.

Ужо змяркалася, калі пад дом, які займаў Мянько, пад'ехала грузавая машына. З машыны выйшлі: Шуткевіч, і Крохмаль у суправаджэнні міліцыянера. Ад жонкі Мянька ўзялі ключы, адамкнулі дом. Пачалі грузіць на аўтамашыну мэблю і ўсякія іншыя прылады хатняга ўжытку.

Прымусовае высяленне!

Уладзімір Мянько не мае так ужо вельмі многа мэблі. Шмат што згарэла ў час пажару. Так што неўзабаве амаль усё было пагружана на машыну. Застаўся толькі зэдлік, на якім сядзела ўсхваляваная жонка Мянька. Ну што-ж, калі ўжо прымусовае высяленне, то трэба забраць усё. Шуткевіч паволі падыходзіць да яе. У вокнах таўпяцца цікаўныя твары суседзеў.

— Зыйдзі — просіць.

Седзячa дагэтуль моўчкі кабета як-бы гэтага і чакала. Ліўнём паліліся поўныя крыўды словы. Старшыня бачыць, што тут няма жартаў.

— Пры сведках кажу табе — урачыста ўскрыквае грозна пазіраючы на натоўп людзей. — Вы без ніякай аплаты атрымаеце: і бэлькі, і дам вам паўтары тысячы цэглы, матэрыял на хлеў, дапамагу вам пабудаваць, толькі зыйдзі з табурэткі.

Ну што-ж, пад уплывам такіх аргументаў зыйшла. Узрадаваны Шуткевіч схапіў за табурэтку і «папёр» да грузавіка.

І што-ж аказалася. Калі пасля ўсяго гэтага Уладзімір Мянько пайшоў даведацца наконт абяцанага матэрыялу, падсунулі яму пад нос пастанову Прэзідыума Павятовай рады. У гэтай пастанове гаварылася, што вышэй памянуты тры сцены старой хаты гр. Мянько, а як-жа!.. можа атрымаць, але ... калі заплаціць за іх 2.339 зл. Як гэта, якім чынам!

— Прымусовае высяленне — шматзначна адказалі яму ў ГРН.

Але адкуль Мяньку ўзяць гэтых 2.339 зл. калі ледзь жніва дачакаў — не меў з чаго жыць. На жыццё аддаў атрыманыя ад страхавальнага праўлення 1.400 зл.

Цяпер Мянько жыве ўжо на паддашы. Ну бо і што-ж меў рабіць?..

Жывёліну сваю змясціў па суседзях.

Карова знаходзіцца ў хляве гр. Гандзі Пяцэвіч — адлегласць 600 м., авечкі ў Канстанціна Яновіча — адл. 500 м., куры трымае ў сваім гумне — адл. 100 м., свінні ў Цюхая — адл. 600 м., цяля пры вуліцы Бэма — адл. 700 м. Мёртвы інвентар знаходзіцца пад голым небам.

І як тут чалавек мае гаспадарыць...

Гр. Мянько яшчэ і пасля неаднаразова звяртаўся да старшыні Шуткевіча і прасіў у яго хоць сякой-такой дапамогі.

— Што хочаш рабі, я нічога не ведаю — такі быў адказ.

Размаўляў я з гр. Шуткевічам. Ну што-ж. Афіцыяльна нібы ўсё ў парадку.

Уладзімір Мянько доўгі час не складаў ніякага пісьмовага прашэння. (Пры гэтым варта падкрэсліць што ён вельмі дрэнна піша папольску).

Уладзімір Мянько ва ўдакладненым тэрміне не апаражніў прызначанай аптэкару хаты.

Уладзімір Мянько нібы зласліва адносіўся да старшыні ГРН, як прадстаўніка ўлады.

— Урэшце-ж, — як кажа Шуткевіч, — трэба дбаць аб аўтарытэт народнай улады. («Я за ім не буду-ж бегаць»).

Гр. Крохмаль, працаўнік Аддзела комунальнай гаспадаркі ПРН у Саколцы, таксама нібы мае рацыю.

Але ці такім чынам заваёўваецца аўтарытэт народнай улады ў народзе! На маю думку гр. Мянько слушна адчувае сябе пакрыўджаным. Ён-ж гаспадар, якога спаткала няшчасце. А мясцовыя ўлады становча за мала цікавяцца лёсам пацярпеўшага, не аказваюць яму належнай дапамогі.

P. S. Пра пацярпеўшую ў пажары гр. Уршулю Кулакоўскую я не ўспамінаў таму, што паводле запэўненняў старшыні ГРН Шуткевіча, ужо хутка атрымае адпаведнае памяшканне.

С. ЯНОВІЧ.

## Замежны друк аб „Ніве"

«Ніва» карыстаецца вялікім зацікаўленнем у Савецкай Беларусі. Яна знайшла жывы і цікавы водгук і ў беларускім друку. Аб «Ніве» пісалі:

«Звязда» — орган ЦК КПБ, Савета Міністраў і Вярхоўнага Савета БССР. Яшчэ ў маі надрукавала яна кароткі агляд пачатковых нумараў «Нівы». З мэтай умажлівіць чытачу лепшае ўяўленне нашага штотыднёвіка «Звязда» падала вінетку першай старонкі «Нівы».

«Советская Белоруссия» — орган ЦК КПБ, Совета Міністраў і Вярхоўнага Совета БССР (выдаецца на рускай мове) — надрукавала на сваіх старонках вялікі ўсебаковы агляд, не пазбаўлены і крытычных заўваг.

«Літаратура і мастацтва» — орган Саюза Пісьменнікаў БССР, і «Маладосць» — орган ЦК ЛКСМ Беларусі таксама пісалі аб «Ніве».

Усе гэтыя часопісы радасна сустрэлі выйсце ў свет «Нівы» і ўважліва сочаць за працай, якую яна праводзіць. (вл)

## Беларускі хор



Беларускі хор паўстаў нядаўна. Ён існуе і сістэматычна праводзіць рэпетыцыі, рыхтуючыся да хуткага першага публічнага выступлення.

Зараз, у рэпертуары хору знаходзіцца 9 кампазіцый — беларускіх, польскіх і рускіх.

Рэпетыцыі хору адбываюцца ў кожную сераду і пятніцу ў гадзінах 17—20-ай.

Запісы ў хор яшчэ працягваюцца і таму звяртаемся з просьбай да ўсіх ахвотных спяваць у беларускім хоры, прыняць у ім удзел.

Запісвацца можна падчас кожнай рэпетыцыі ў загадчыцы хору Людмілы Іванаўны Панько. (вл)

З конкурсу збіральнікаў фальклору

## Як бедны мужык збагацеў

У адной вёсцы жылі два мужыкі з каторых адзін жыў вельмі багата, а другі бедна. Багаты славіўся на ўсю вёску. Пазайздросціў яму багацтва бедны мужык. Задумаў і ён дарабіцца такой гаспадаркі. Ды рабіў круглыя гады па цэлых днях ад цямна да цямна і нічога з яго багацтва не палучалася.

Пайду — думае — да суседа ды запытаю як ён такога багацтва дарабіўся, можа ён якія чары знае, і мне скажа.

Заходзіць ды пытае: — Добры суседзе, можа вы скажаце як працаваць, каб лепей жыць. Бачу вы не так цяжка працуеце, а так добра жывеце.

— Бач яго — усміхаючыся да пузатае жонкі, кажа сусед, — які з яго філасоф, я якую адукацыю маю, а ён нават распісацца не ўмее і яшчэ мне лёгкага жыцця зайздросціць. Хаця-б чытаць ды пісаць навучыўся-б.

Так і з нічым бядак выйшаў ад суседа.

— А мо' варта было-б пайсці да школы і трохі падвучыцца — думаў ішоўшы да дому. — Хаця я ўжо і стары, але можна прымусіць.

Назаўтра рана ўстае, абуваецца ў лапці і шагае хутчэй да школы. А тут у школе настаўніца паведамляе што ўжо за позна (гэта значыць за стары).

— Ну — думае ідучы да дому — сёння спазніўся, заўтра ўстану раней.

На другі дзень заходзіць раней да школы, а настаўніца зноў гаворыць:

— Вам раней трэба было хадзіць да школы, цяпер ужо вам позна, цяпер вучацца маладыя, а для такіх як вы ўжо мінула вучоба (гэта значыць за стары).

— Заўтра яшчэ цёмна прыду да школы, тады акурат будуць вучыцца такія як я.

Прыйшоўшы да хаты крычыць да жонкі:

— Будзі мяне рана, раненька, так што-б паспеў на вучобу.

— Э, старое падла — крычыць жонка — яшчэ ён задумаў гэтую старую галаву больш дурыць.

Зрываецца наш бедак дзесь каля поўначы, абувае абы як лапці, адзяваецца, выходзіць з хаты і хутчэй да школы. Ды па дарозі бягучы як ні зачэпіцца ды не паляціць.

— Ну, ліха на яго, лапаць развязаўся — крычыць.

Мацае рукамі лапця і раптам чуе штось сліскае пад рукамі, чуе якаясь тэчка, ды не абы якая. Ён за гэту тэчку і да дому. Забягае, адчыняе яе, глядзіць і не можа вачам паверыць — больш як поўтэчкі грошай. Цяпер толькі бедны мужычок узяўся за работу. Паставіў усе новыя будынкі, адзеўся хораша і паеў не горш ад свайго суседа.

А ў тую ноч, калі мужычок-беднячок знайшоў грошы, багач яшчэ з вечара выехаў да горада (бо быў вельмі далёка) і вёз падатковыя грошы ў банк. Па дарозе згубіў іх. А калі грошай не знайшлі пасадзілі гэтага багача ў турму. Даведаўшыся багач, што беднячок раптам збагацеў падаў яго ў суд, што ён знайшоў яго грошы, каторыя вёз да горада ў банк. Тады пазываюць бедняка ў суд і пытаюцца ці ён найшоў калі-небудзь якія грошы.

— Найшоў — адказвае мужычок.

— А калі? — пытаюцца.

— Тады, калі да школы хадзіў.

— Э, гэта даўно было, няважна, нам патрэбны той хто нядаўна знайшоў.

І такім спосабам пабагацеў мужычок.

Прыслаў
АЛЯКСАНДАР ГЕГЕЛЬ
Зубкі
Беластоцкі павет

